# НАВІНКІ

12 - 19 сьнежня 2002 №29(78) Кошт свабодны




# А ТЫ



# ЗДАЎ ІСПЫТ НА ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА?

10 сьнежня ўвесь Вольны Сьвет сьвяткаваў Дзень абароны правоў чалавека. Між тым, пераважная большасьць беларускіх грамадзянаў нават не здагадваецца, што правы чалавека – гэта такая ж рэч, як і правы на кіраваньне аўтамабілем. А цяпер задайцеся пытаньнем: хто зь беларусаў мае адпаведныя дакумэнты, што засьведчылі б чалавечую годнасьць уладальніка? Для таго ж, каб атрымаць запаветную «корачку», трэба здаваць і пэўны іспыт. Праўда, не ў ДАІ, а ў іншай канторы. (Працяг тэмы на стар.4-5)

## Ławina Łukaszenki




Падрабязьней на стар.3

## Бандыцкі Менск:

*Горад становіцца месцам крымінальных разборак.* *Стар.7*

## САШАВЫ



## СЮРПРЫЗЫ

Дэкадэнцкі комікс на стар.8


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 351

Нумар падпісаны да друку 12.12.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз.

## НавІнкі ў тЭстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. На якую арганізацыю падаў у суд Анатоль Лябедзька за незаконнае, на ягоную думку, папярэджаньне?**
А) КХП
Б) АГП
В) КДБ

**2. Якую закаўкаскую краіну прынялі ў Сусьветную Гандлёвую Арганізацыю?**
А) Грузію
Б) Арменію
В) Азэрбайджан

**3. Беларусь далучылася да міжнароднай канвэнцыі па абароне:**
А) Журналістаў
Б) Правоў чалавека
В) Новых гатункаў расьлін

**4. Куды накіравалі на «хімію» галоўнага рэдактара газэты *Рабочы* Віктара Івашкевіча?**
А) На Калыму
Б) У Варкуту
В) У Баранавічы

**5. Якога беларускага сьпевака нарэшце выпісалі са шпіталю?**
А) У.Мулявіна
Б) А.Саладуху
В) А.Ціхановіча

**6. У 2003 годзе на Віцебшчыне мяркуецца ўвесьці мараторый на:**
А) Зарплату
Б) Падаткі
В) Адпачынак

**7. Каля Рэчыцы геолягі адкрылі новае радовішча:**
А) Золата
Б) Нафты
В) Сьмятаны

**8. Хто пачне агульнанацыянальны страйк 19 сьнежня?**
А) Спэкулянты
Б) Прадпрымальнікі
В) Наркадылеры

**9. Што заміраточыла ў Сьвята-Фёдараўскім саборы Пінска?**
А) Ікона
Б) Кадзіла
В) Поп

**10. Які дзяржаўны дакумэнт Расейскай Фэдэрацыі выдадзены ў малюнках?**
А) Бюджэт
Б) Канстытуцыя
В) Крымінальны кодэкс

**11. Суд прызнаў Віктара Ганчара:**
А) Прэзыдэнтам
Б) Сьвятым
В) Бязь вестак згінуўшым

**12. Імпарт якога беларускага тавару можа быць спынены ўкраінскай антыдэмпінгавай камісіяй?**
А) Запалак
Б) Запальнічак
В) Крэсіва

**13. Кампаніі якога расейскага алігарха Беларусь прадала сваю частку акцыяў «Слаўнафты»?**
А) Беразоўскага
Б) Абрамовіча
В) Гусінскага

**14. Хто наведаў Беларусь і правёў сустрэчу з прэзыдэнтам?**
А) Чувашы
Б) Чувакі
В) Чувіхі

**Правільныя адказы**: 1-В, 2-Б, 3-В, 4-В, 5-А, 6-Б, 7-Б, 8-Б, 9-А, 10-Б, 11-В, 12-А, 13-Б, 14-А

# Горад сонЦа

## *Празь сем гадоў тут будзе горад-сад*



*Гэтак выглядае праект забудовы нашай сталіцы да 2010 году ў плянах архітэктараў*

Безупынны рост беларускай эканомікі вымагае вяртаньня да старых новых мэтадаў вядзеньня народнай гаспадаркі з мэтай стабілізацыі правільна выбранага ўладамі курсу. І таму гэтае вяртаньне да плянавай эканомікі дае нашым грамадзянам надзею на заможнае існаваньньне і нават на заслужаны пакаленьнямі дабрабыт. З гэтай прычыны кожны здарова думаючы чалавек падтрымае рашэньне Менгарвыканкаму, дзе быў разгледжаны гэнплян гораду, распрацоўшчыкі якога гарантуюць, што ў хуткім часе Менск зможа на роўных канкураваць з бальшынёй эўрапейскіх сталіцаў як па разьвіцьці інфраструктуры, гэтак і па сацыяльна-эканамічных паказчыках. Таму такія прыкрыя недахопы жылкамунгасу, як 18 квадратных мэтраў на чалавека, у параўнаньні з 35-цю эўрапэйскімі хуткім часам адыйдуць у забыты нябыт.
У першую чаргу шчасьліва-задаволеныя ўсьмешкі сталічных жыхароў выклікае пункт аб разьвіцьці хуткаснага пасажырскага аўтатранспарту на базе сучасных мадэляў аўтобусаў, трамваяў і мэтро, што ня змогуць не падчыніцца гэнэральнай лініі геапалітычнага разьвіцьця сталіцы. Транспарт пойдзе па новых рэйках рэарганізацыі! Аднак, дзеля адпаведнасьці безумоўна высокім паказчыкам разьвіцьця галоўнага гораду Беларусі ў гэнплян Менску закладзены адпаведна неабходны ўзровень жыцьця жыхароў сталіцы – дзеля ўстойлівасьці і стабільнасьці эканамічных і сацыяльных паказчыкаў да 2010 году ўзровень даходаў менчукоў павінен складаць 600 даляраў. Пакуль невядома, якім чынам будзе дасягацца гэткі паказчык – ці тое гэнплянам Менску прагназуецца безальтэрнатыўная інфляцыя даляру ў дапасаваньні да беларускага рубля, што выглядае абсалютна рэалістычна ў адпаведнасьці зь бязглуздымі плянамі Амэрыкі па заваяваньні сусьветнага гаспадзтва.
Ці тое ў пляны граданачальнікаў уваходзіць адсяленьне маламаёмасных слаёў насельніцтва за рысы менскай кальцавой дарогі з мэтай забесьпячэньня беспраблемнага жыцьця лепшай часткі сталічнага грамадзянства, якое на дадзены момант складае каля 15 % ад агульнай колькасьці менчукоў. І гэтая мера таксама зьяўляецца цалкам неабходнай з улікам таго, што большасьць «некамфортных» для горада прадпрыемстваў будуць вынесеныя за межы гораду.Акцыя «Чысты горад» набывае новыя абсягі, і ў кожнага нармальнага чалавека будзе стымул да таго, каб застацца ў Горадзе Сонца ●

**Мэр Паўлаў**

# Пастой, паравоз!




Шырокім крокам крочаць па краіне нэалібэральныя рэформы. Закранулі пераўтварэньні і адзін з аплотаў народнай гаспадаркі, адную з асноўных натуральных манаполіяў – Беларускую чыгунку. Вынікі больш чым уражваюць. Адной зь першых ахвяраў стаў былы начальнік чыгункі, які за сваю былую эканамічную дзейнасьць зараз парыць косткі на нарах, ня кажучы ўжо пра звычайных пасажыраў. Тыя наогул ледзь ня кожны квартал павінныя прызвычайвацца да новых расцэнак на білеты. А яшчэ праблемы нявыплаты заробкаў, абнаўленьня саставу цягнікоў, сэрвісу ў вагонах...
*І вось на фоне ўсіх гэтых* праблемаў цяперашняе кіраўніцтва міністэрства шляхоў зносінаў, замест таго каб займацца вырашэньнем набалелых пытаньняў, самым сапраўдным чынам гуляецца ў гулькі. Апошняя ініцыятыва – конкурс прыгажосьці сярод работнікаў чыгункі пад назвай «Міс беларускай стальной магістралі», які прайшоў у ДК чыгуначнікаў. Новай «жалезнай ледзі» Беларусі стала 22-гадовая Тацьцяна Клімовіч, якая працуе правадніцай у фірмовым цягніку «Зьвязда» па маршруце «Менск – Санкт-Пецярбург». Яна і атрымала каштоўны падарунак – айчынны халадзільнік. А простаму кліенту ад гэтага, як гаворыцца, ні холадна, ні сьпякотна. Кошты як расьлі, гэтак, мяркуючы па ўсім, і будуць расьці. Так што, шчасьлівага пуці, шаноўныя пасажыры! ●

## КОнкурс

### Рэйкавая вайна

Танцуй усякі, хто молад, хто стар,
На чыгунцы нашай ёсьць свая супэрстар.
Гэта дзяўчо не згубіла нічога ў сталіцы,
Яна на маршрутах твая праваднiца!

Усё будзе блясьцець і сьвіркаць,
Яе не патрэбна доўга шукаць.
Жадаеш гарбаты, кавы, лімона,
Усяго ў гаспадарцы яе дастаткова.
Пакліч у паўголаса томна: Таццяна!
І ўжо стучыць лыжка па сьценках стакана.
Калі ты спалохан, прысьніў жудасны сон,
Яна калыханку зацягне на цэлы вагон.
Калі ў дарозе скука, нудота,
Ня будзе ёй сумна – гэта работа.
Гарэлку ўсю сьпілі, зьелі ўсю кілбасу.
Толькі скажы, у адказ – «Зараз нясу»!

Гэтай міс беларускай магістралі стальной
Халадзільнік уручылі за труд неблагой.
Сёньня ў дарозе безь яе нікуда,
Пачотны і важны труд праваднiка!

**ЯрылаПшанічны**

## Невылечная рана



Са смуткам і жалобай паведамляем, што 2 сьнежня 2002 у Брэмене на 76 годзе жыцьця скончаўся папулярны сучасны філёзаф Іван Ільліч (Illich). Больш за усё яго палюбілі за кнігу «Вызваляючы грамадзтва ад школаў» («De-schooling society»). Па ягонай думцы, унушэньне індывідуму стандартызаваных каштоўнасьцяў у якасьці асабістых ператварае культуру са сродка самаразьвіцьця асобы ў сродак ускоснага сацыяльнага кантролю за ёй. «Добрая адукацыйная сыстэма павінна: забясьпечыць усім жадаючым свабодны доступ да вучэбных рэсурсаў у любы пэрыяд жыцьця ў прыемны час, чалавек павінен сам выбраць стыль навучаньня, неабходна падтрымліваць намаганьні ўсіх, хто хоча падзяліцца ведамі ў пошуку тых, хто хоча ў іх навучыцца, усе жадаючыя павінны мець магчымасьць публікаваць і абмяркоўваць свае вынікі.»
А як ён пісаў пра канцэпцыю сучаснай культуры – «пэрсонацэнтрызм, паступовае ператварэньне настрою ілюзорнага самаўпаеньня ў тыповы стан індывідума»! Такіх словаў ужо ніхто больш не напіша.
Ён бы мог жыць і далей, але ня вытрымаў «адзінай гіганцкай гвалтоўнай сыстэмы забесьпячэньня паслугамі», якой на яго думку, зараз зьяўляецца заходняе грамадзтва ●

# САШАВЫ СЮРПРЫЗЫ






































































